


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 8 (287) ТРАВЕНЬ 2020 ГОДА

БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ

*…жыць адно тады і варта, калі рабіць дабро людзям*

**Ніл Гілевіч**

COVID-19

# ВЫЙШЛІ НА ТРЭЦЦЯЕ МЕСЦА

**Гарадоцкі раён выйшаў на трэццяе месца у вобласці па колькасці станоўчых тэстаў на COVID-19 сярод сельскіх раёнаў. Гарадоцкі раённы штаб па прадухіленні завозу і распаўсюджвання выпадкаў інфекцыі, выкліканай каранавірусам паведаміў, што колькасць станоўчых тэстаў на COVID-19 у раёне па стану на 15 траўня дасягнула 89 чалавек.**

Доўгі час наш раён па колькасці станоўчых тэстаў на COVID-19 не вылучаўся сярод сельскіх раёнаў Віцебшчыны. Бо ў красавіку «лідзіраваў» Докшыцкі раён, наперадзе былі таксама Бешанковіцкі, Шумілінскі, Пастаўскі, Лёзненскі і Глыбоцкі раёны.

Аленагэтымтыднісітуацыязмянілася. 12 траўня штаб паведаміў, што ў раёне зарэгістраваны 71 выпадак станоўчых тэстаў на COVID-1, а выздаравела — 21 чалавек. Папярэдняя інфармацыя была ад 6 траўня і ў ёй паведамлялася пра 48 станоўчых тэстаў на COVID-19 і выздараўленне 6 чалавек. Фактычна за дзевяць дзён афіцыйная колькасць станоўчых тэстаў на COVID-19 падвоілася. Паводле: http://gorodok.vitebsk-region.gov.by.

А гэта значыць, што эпідэмія COVID-19 у Гарадоцкім раёне пашыраецца. Штаб не паведамляе аб колькасці смярцей ад COVID-19, але пахаванне ў закрытых трунах сведчыць пра тое, што такія смерці ў раёне ёсць.

Што датычыцца агульнай сітуацыі на Віцебшчыне з COVID-19, то пры ўсёй закрытасці інфармацыі па каранавірусу, маюцца наступныя даныя. У Пастаўскім раёне 7 траўня было 104 хворых на COVID-19, у Глыбоцкім раёне 14 траўня было 94 хворых, у Шумілінскім раёне — 85 хворых. У Докшацкім раёне улады не інфармавалі грамадства з 17 красавіка. Па стану на 12 траўня ў Лёзненскім раёне было — 66 хворых, а ў Бешанковіцкім — 60.

Па віцебску інфармацыя не абнаўлялася з 24 красавіка, калі там было больш 1550 станоўчых тэстаў, па Аршанскаму раёну з 22 красавіка, калі паведамілі пра 82 выпадкі і 5 смярцей, а ў Полацкім рэгіёне сказалі 4 траўня пра 313 выпадкаў. Паводле: https://news.vitebsk.cc.

Нагадаем, 6 траўня раённы штаб паведаміў, што ў Гарадоцкім раёне прыняты шэраг супрацьэпідэмічных мер:

праводзіцца інфармацыйна-тлумачальная праца;

створаны і забяспечаны ўмовы захавання правілаў асабістай гігіены работнікамі арганізацый, устаноў і ведамстваў раёна;

адмененыямасавыямерапрыемствы;

не праводзяцца выставы, прэзентацыі і кірмашы ў закрытых памяшканнях;

забаронена наведванне сацыяльных устаноў для пажылых людзей староннімі асобамі;

перанесены планавыя абследаванні спецыялізаванымі арганізацыямі жыллёва-камунальнай сферы;

праводзяцца дэзінфекцыйныя мерапрыемствы ў грамадскім транспарце, гасцініцах, інтэрнатах, лазнях, пад'ездах жылых дамоў;

прынятыя супрацьэпідэмічныя меры ў гандлёвай сетцы і аб'ектах грамадскага харчавання, гасцініцах, кемпінгах, а таксама на рэлігійных аб'ектах;

абмежаваная праца дыскатэк і забаўляльных устаноў;

забяспечаны сістэмны кантроль за выкананнем самаізаляцыі ў хатніх умовах асоб, якія ёй падлягаюць ;

Паважаныя гарадкачане і жыхары раёна, у мэтах прафілактыкі імклівага распаўсюджвання вірусных інфекцый на тэрыторыі раёна і за яго межамі, просім вас максімальна выконваць правілы асабістай гігіены і ўзровень сацыяльнага дыстанцыявання.

Ад сябе дадацім, што акрамя дыстанцыявання варта знаходзіцца ў грамадскіх месцах ў масцы, а дома дэзынфіцыраваць рукі і рэчы, якія набывалі.

**Л. Антонаў**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

ПАМЯЦЬ

# СТВОРАНА АЛЕЯ СЛАВЫ ГЕРОЯЎ

**У Гарадку на пачатку вуліцы Баграмяна створана Алея Славы Герояў Савецкага Саюза.**

На гэтым тыдні завяршылася будаўніцтва Алеі Славы Герояў Савецкага Саюза на пачатку вуліцы Баграмяна, дзе ўсталяваны бюст двойчы Героя Савецкага Саюза, Маршалу Івану Баграмяну.

На Алеі Герояў размешчана інфармацыя аб 10 Героях Савецкага Саюза, якія нарадзіліся на Гарадоцкай зямлі. Таксама на ёй ёсць яшчэ інфармацыя пра двух поўных кавалераў ордэна Славы: Дарошчанка Івана Васільіча і Янчанка Іллю Платоныча.

Трынаццатым нашым земляком стаў Герой Расіі Семянкоў Аляксей Іванавіч, які прывёз у Маскву акт аб капітуляцыі фашысцкай Нямеччыны 9 мая 1945 года і атрымаў званне Героя Расіі ў 1998 годзе. Але нарадзіўся ён на хутары Цесалы, а не ў в. Гуркі, куды былі ссялены жыхары гэтага хутара ў 1939 годзе. У гэты час наш Герой ужо звязаў сваё жыццё з авіяцыяй, калі закончыў у 1936 годзе Тамбоўскае вучылішча лётчыкаў.

Гэтая Алея Герояў у сваім сціплым афармленні дае добрую інфармацыю аб нашых славутых земляках, якія сталі Героямі ў часы Савецкага Саюза.

Самы першы Герой Савецкага Саюза па атрыманню гэтага звання ў гэтай Алеі — Сабалеўскі Аляксандр Пятровіч, які удзельнічаў у выратаванні «чалюскінцаў». Званне Героя ён атрымаў яшчэ ў 1940 годзе.

Гераічна загінуў 25 красавіка, паўтарыўшы подзвіг А. Матросава у г. Брэслаў (зараз польскі Вроцлаў), Іосіф Бумагін, які папаў на фронт восенню 1944 года пасля заканчэння вайсковага вучылішча ва Уладывастоку. І яго памяць да гэтага часу ўшаноўваюць у г. Бірабіджане, дзе засталася яго сям'я і каля якога трагічна загінуў пад цягніком яго старэйшы сын. Дарэчы да апошняга часу ў Бірабіджане лічаць, што Іосіф Бумагін нарадзіўся ў г. Віцебску, як ён мусіць сказаў, калі пайшоў на фронт. Ды і бацьку свайго ён назваў на расійскі лад — Раманам, не так як яго называлі сярод габрэяў — Рувімам.

Прадстаўлены на Алеі і наш Герой, які здзейсніў свой подзвіг у пасляваенны час у студзені 1954 года — Рамашкін Цімафей. Наш зямляк бараніў у паветры самалёт ад нападзення бандытаў і быў смяротна паранены. За адвагу і самаахвяраванне пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Урачыстае адкрыццё Алеі Герояў адбылося 8 траўня ў 9.00

**Л. Антонаў**

НАША ГІСТОРЫЯ

# ТРАГЕДЫЯ ПАТРАБУЕ ДАКЛАДНАСЦІ (заканчэнне)

**Аб знішчаных вёсках і іх мемарыялізацыі на тэрыторыі сучаснага Гарадоцкага раёна.**

Зараз на Гарадоччыне маецца 16 абеліскаў, якія ўстаноўлены на месцы пахавання мірных грамадзян спаленых вёсак. Гэта в. Казлы знішчана жыхароў — 41 Халамерскага с/с зараз Віраўленскі с/с, і яна занесена ў «Могілкі вёсак» Хатынскага мемарыяла, абеліск в. Зарэцкія — Вайханскага сс пра якую няма даных у Нацыянальным архіве, в. Хартова (ранейВаладарка) 265 знішчаных жыхароў, в. Баркова па архіўных даных знішчана жыхароў — 75 (122 ранейшыя даныя з кнігі «Памяць») з Пальмінскага сс.

Па Руднянскаму сельсавету, які зараз ліквідаваўся, гэта абеліскі ў в. Сінякі знішчана жыхароў — 87 архіў (107 ранейшыя даныя), в. Балотніца знішчана жыхароў — 128, в. Дарахі знішчана жыхароў — 256.

Найбольш абеліскаў у Стадалішчанскім савеце — ў в. Прывальні, але яе няма ў кнізе «Памяці», але ёсць у Нацархіве, толькі без даных часу карнай аперацыі, в. Чарады знішчана жыхароў — 37, в. Масеяўка маецца абеліск, але няма архіўных даных і няма ў кнізе «Памяці», в. Сячонка маецца абеліск, а няма нічога ні ў раённай кнізе, ні ў Нацархіве, в. Забор'е знішчана жыхароў — 55, в. Канашы знішчана жыхароў — 48. Усяго на тэрыторвыі сельсавета — 6 абеліскаў.

Асабліва стаіць абеліск ў в. Рудня Пальмінскага сельсавета. У нацыянальным архіве пазначана як Рудня Мехаўскага раёна, дзе са 120 жыхароў загінула 10. А што датычыцца в. Рудня Пальмінскага сельсавета, то даных няма, бо гэтая Рудня ня ў Мехаўскім раёне.

Відавочна, што трэба ўдакладняць інфармацыю па абелісках і гісторыях, якія прывялі да іх усталявання.

Асаблівая праца датычыцца і мемарыяла спаленым вёскам Гарадоцкага раёна ў Вараб'ёвых гарах, які быў рэканстрэяваны пад час абласных «Дажынак» 2014 года. Мемарыял набыў сучасны выгляд, але паўтарыў змест свайго папярэдняка. Тут толькі каля 20 агучаных пацярпелых вёсак і толькі 2(!!!) маюць архіўнае падцвярджэнне. А пра сотні пацярпелых вёсак Гарадоцкага раёна няма згадкі: ні пра 183 з кнігі «Памяці» 2004 года, ні пра 306 з Базы даных Нацыянальнага архіва з 2013 года.

Відавочна, што да 75-годдзя Перамогі ў Вялікай айчынай вайне варта зрабіць працу, каб змест мемарыяла адпавядаў яго форме — як месцу **праўдзівай ПАМЯЦІ** аб спаленых вёсках Гарадоцкага раёна і нашых загінулых суайчынніках у гады нямецка-фашысцкай акупацыі.

Таксама варта ўшанаваць памяць пра знішчаныя вёскі і забітых суайчыннікаў на тэрыторыі сучасных сельсаветаў у найбольшых з застаўшыхся вёсак.

І гэта праца мусіць весціся ўсімі неабыякавымі грамадзянамі і сілкавацца дзейнасцю ў школах Гарадоцкага раёна. Добра будзе, калі старт гэтай працы пакладзе сёньняшня сустрэча і ў Год Малой Радзімы мы больш уважліва пачнем ставіцца

***(працяг на стар. 2)***

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

НАША ГІСТОРЫЯ

*(пачатак на стар. 1)*

да гісторыі сваёй Гарадоцкай зямлі. І напрыканцы. Нядаўна прачытаў кнігу вядомага чэшскага пісьменніка Яхіма Топалы «Цэх д'ябла». У ёй пісьменнік распавядае пра падобнасць лёсаў чэхаў і беларусаў і адзначае выключнасць маштабаў нашай трагічнай гісторыі, а ў вусны свайго героя ўкладае думку: **«Калі мы страцім сваю мінуўшчыну, то і будучыні для нас не будзе. Не будзе, разумееш?»**.

Дык давайце не страчваць сваю мінуўшчыну, каб мець будучыню!

**Леанід Гаравы**
**краязнаўца**

АПЫТАННЕ

# ДАВЕРУ ІНФАРМАЦЫІ ЎЛАДАЎ НЯМА

**Сярод нашых чытачоў амаль не знайшлося тых каго задавальняе інфармаванне ўладаў пра сітуацыю з каранавірусам.**

Рэкордна нізкую адзнаку за інфармаванне пра сітуацыю з каранавірусам ад чытачоў нашых груп у УКантакце і ў Аднакласніках атрымалі ўлады Беларусі. Мы запыталі ў сваіх чытачоў: «Ці задавальняе вас, як улады Беларусі інфармуюць пра сітуацыю з каранавірусам?»

З пачаткам пандэміі на Беларусі рэзка павялічылася ўвага грамадства да інфармацыі пра сітуацыю з каранавірусам COVID-19 у нашай краіне. І калі напрыканцы сакавіка інфармацыі ішла толькі з Віцебску і Мінска, то ў красавіку"гарачых" кропак станавілася ўсё больш і рост захворванняў у краіне на COVID-19 стаў у выглядзе экспаненты. Пры гэтым смяротнасць ад каранавіруса уладамі падаецца так мінімальна, што не мае ніякага даверу з боку грамадства. Чытачы больш інфармацыі пра смяротнасць атрымліваюць ад журналістаў незалежных выданняў, чым ад Мінздароўя.

У выніку наша апытанне сярод чытачоў у УКантакце засведчыла, што толькі 2% чытачоў давяраюць інфармацыі ўладаў, а кіраўніка Лукашэнку НІХТО не слухае. Пры гэтым амаль тры чвэрці удзельнікаў — 72% інфармацыі не давяраюць, «цяжка сказаць » — так адказала 5%, і яшчэ 21% стаміўся ад каранавіруснай тэматыкі.

Варта адзначыць, што у апытанні прыняла удзел рэкордная колькасць чытачоў — сто, а праглядзела апытанне 1200.

Не менш паказальная карціна і з адказамі у нашай групе ў Аднакласніках, дзе перавагу маюць людзі больш сталага ўзросту. Але і тут з 20 атрыманых адказаў маецца «ядзерны» электарат, які слухае толькі Лукашэнку, даўярае яму і стварыў групу ў 10% ад усіх удзельнікаў апытання. Пры гэтым не знайшлося тых хто давярае уладам — такіх НУЛЬ. Таксама 10% апынулася тых, каму цяжка вызначыцца з адказам на пытанне. І цэлых 80%(!) заявілі, што іх не задавальняе, як улады інфармуюць пра сітуацыю з каранавірусам.

Адзначаем, што дадзенае апытанне рэпрэзентатыўна толькі сярод чытачоў нашых груп, якія чытаюць нашы матэрыялы сайта http://haradok.info, а таксама ў сацыяльных сетках. Але яго вынікі даволі паказальны.

**Л. Антонаў**

НАША ЎЛАДА

# ЯНЫ ЛЮБІЦЬ НЯ ЎМЕЮЦЬ НАВАТ МЁРТВЫХ

**Яны штодня рызыкуюць жыццём і часта гінуць, ратуючы іншых. А ў адказ замест удзячнасьці і пашаны няpэдка атрымліваюць зьдзеклівыя папрокі і прыніжэньні ад улады. Чаму?**

Аляксандар Лукашэнка з моманту пачатку пандэміі некалькі разоў выказваўся пра беларускіх мэдыкаў, якія, ратуючы хворых на COVID-19, самі заразіліся і захварэлі. Якімі былі гэтыя ацэнкі?

31 сакавіка: «Вось у Віцебску, ведаю, лекары першага ўзроўню — тыя, хто ад кагосьці заразіўся. Там больш за дзясятак. Яны, відома, не праблемныя. Але ж мы адцягваем увагу на іх лячэньне. Гэтыя дактары павінны лячыць пацыентаў, а мы іх лечым. Яны, дзякуй Богу, моцныя людзі. Але гэта нядобра, калі лекар грэбуе элемэнтарнымі захадамі...»

23 красавіка: «Мы пачыналі гэту барацьбу толькі сіламі Міністэрства аховы здароўя. І зь некаторай расслабленасьці нашых лекараў. Я б сказаў, што ў асобных выпадках — расхлябанасьці. І гэта прывяло да таго, што мы атрымалі гэту заразу ў некалькіх дзясяткаў лекараў. І нам давялося лячыць дактароў. Таму ніякай расхлябанасьці! За гэта міністар адкажа галавой разам з профільным віцэ-прэм'ерам і ўрадам у цэлым. Разьбярыцеся: як лечаць людзей у шпіталях з пункту гледжаньня бясьпекі мэдыцынскага пэрсаналу? Мяне інфармуюць дагэтуль, што „Ай, ладна, зараз зайду, нешта зраблю". Зайшла, заразілася, панесла заразу ў грамадзтва. Не павінна быць расхлябанасьці. Зьбярыцеся там, дзе трэба сабрацца».

У розных краінах сьвету падчас пандэміі заразіліся і памерлі тысячы мэдыкаў — дактароў, мэдсясьцёр, санітараў. І адбылося гэта зусім не таму, што яны легкадумна грэбавалі захадамі бясьпекі. Любы мэдык ведае: ніякія рэспіратары, акуляры і адмысловыя касьцюмы ня здольныя гарантаваць поўную засьцярогу, калі ты 24 гадзіны на суткі вымушаны знаходзіцца ў памяшканьнях з высокай канцэнтрацыяй вірусу. Можна выпадкова заразіцца, здымаючы ці надзяваючы спэцадзеньне, папраўляючы рэспіратар ці калі раптам спаўзе пальчатка ці маска...

Існуюць і сотні іншых побытавых сытуацый, якія цяжка прадугледзець. Урэшце, суткамі знаходзячыся ў заражанай зоне, мэдыкі там жа вымушаныя есьці, адпачываць, карыстацца санвузлом, душам. І на кожным кроку сутыкацца зь небясьпекай.

У заходніх краінах нікому не прыходзіць у галаву дакараць мэдыкаў за тое, што яны заразіліся, ратуючы іншых. Наадварот, гэтым людзям — усеагульная ўдзячнасьць і пашана. А тых, хто загінуў, ратуючы іншых, справядліва лічаць героямі. Памяць пра іх ушаноўваюць хвілінай маўчаньня дэпутаты парлямэнтаў і чальцы ўраду. У іхны гонар ладзяць агульнанацыянальныя акцыі салідарнасьці і падтрымкі. Іхныя сем'і атрымліваюць ад ураду вялікія грашовыя кампэнсацыі. Няма сумневу, што неўзабаве зьявяцца і помнікі ім — як героям, што загінулі ў змаганьні, ратуючы жыцьці іншых людзей. Так адбываецца ў Італіі, Гішпаніі, Вялікай Брытаніі...

Чаму ж у Беларусі ня так? Можа, няма ў атачэньні кіраўніка краіны асобы, здольнай даходліва і пераканаўча давесьці яму гэтыя простыя ісьціны? Ці, можа, самому яму варта, на ўзор Пуціна, наведаць у гэтыя дні які-небудзь інфэкцыйны шпіталь і паслухаць тых, каму ён адрасаваў свае кпіны і папрокі?

Дарэчы, галоўны доктар маскоўскага інфэкцыйнага шпіталя ў Камунарцы Дзяніс Працэнка, які суправаджаў Пуціна, таксама заразіўся і перахварэў. Хоць карыстаўся найноўшымі сродкамі засьцярогі ад вірусу і суправаджаў Пуціна пад пільным наглядам спэцслужбаў. Што адметна: ніякіх абвінавачваньняў ад расейскага прэзыдэнта ў адрас доктара Працэнкі не прагучала: Пуцін пасьля таго выпадку паслухмяна самаізаляваўся як кантакт першага ўзроўню.

Падчас успышкі SARS в 2002-2003 гадах 21% усіх пацыверджаных выпадкаў у сьвеце прыпаў на мэдпэрсанал. Цяпер адбываецца нешта падобнае. У Італіі, напрыклад, на пачатак красавіка больш за 6200 хворых былі мэдыкамі (са 120 000 усіх захварэлых). А ў Гішпаніі мэдыкаў з COVID-19 на той жа пэрыяд налічвалася 6500 (12% ад агульнай колькасьці заражаных). І няма ніякіх падстаў сьцьвярджаць, што беларускія мэдыкі ў гэтым сумным шэрагу могуць быць выключэньнем.

**Валянцін Жданко**
**"Радыё Свабода"**

COVID-19

# ПАМЁР 58-ГАДОВЫ МУЖЧЫНА

**9 мая памёр Сяргей Далгалёў, 58-гадовы жыхар Гарадка.**

Па словах сваякоў, мужчына памёр ад каранавіруса. Яны кажуць, што гэта і стала афіцыйнай прычынай смерці.

Па словах суседзяў, у бальніцы сёння знаходзіцца і 85-гадовая маці Сяргея. Пра гэта паведамляе https://nn.by.

Па інфармацыі раённага штаба па стану на 12 мая у раёне зарэгістраваны 71 выпадак станоўчых тэстаў на COVID-19. Выздаравела — 21 чалавек. Папярэдняя інфармацыя была ад 6 мая. У ёй паведамлялася пра 48 станоўчых тэстаў на COVID-19 і выздараўленне 6 чалавек.

**Л. Антонаў**

ПЕРАМОГА

# АДЗНАЧЫЛІ Ў НЕЗВЫЧАЙНЫХ УМОВАХ

**У Гарадку адзначылі 75 годдзе перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне ў незвычайных умовах.**

9 траўня ў Гарадку адбылося ўшанаванне памяці Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне над нямецка-фашыскай Нямеччынай ва ўмовах складанай эпідэміялагічнай абстаноўкі.

За апошнія два тыдні ў Гарадоцкім раёне колькасць хворых са станоўчымі тэстамі на COVID-19 павялічылася з 13 чалавек да 48.

Гэта вымусіла ўлады абмежавацца сціплым правядзеннем святкавання 75 годдзя перамогі: ускладанне вянкоў да помніка 12-гвардзейскім Гарадоцкім дывізіям каля райвыканкаму і на мемарыяльным комплексе «Неўміручасць», канцэртам на цэнтральнай плошчы, а таксама экспазіцыямі з нагоды святочнай даты.

Варта адзначыць, што да 75-годдзя Перамогі ў Гарадку стварылі Алею Славы Герояў Савецкага Саюза — нашых землякоў, якую ўрачыста адкрылі 8 траўня.

Традыцыйныя масавыя шэсці з мітынгам былі адменены. У выніку на цэнтральнай плошчы было зусім мала наведвальнікаў пасля ўскладання гірлянды і вянкоў да вечнага агню. А артысты амаль засталіся без гледачоў. Таксама была адменена і вячэрняя праграма святкаванняў: канцэрты і салют.

І гэта мусіць правільна, бо здароўе важнейшае за рытуал.

**Л. Антонаў**

БАНКРУЦТВА

# РАЙПО БУДЕТ ЛИКВИДИРОВАНО

**Экономический суд Витебской области признал банкротом Городокское районное потребительское общество и вынес решение о ликвидации должника, сообщили корреспонденту БЕЛТА в пресс-службе суда.**

Срок ликвидации установлен на один год. За этот период антикризисному управляющему предстоит погасить долги организации перед более чем 120 кредиторами на общую сумму свыше Br2,4 млн. Балансовая стоимость имущества оценивается примерно в Br5 млн, большая часть из которого низколиквидная. По информации антикризисного управляющего Николая Миронова, в состав комплекса имущества банкрота входит более 100 объектов недвижимости, около половины из которых не имеют правоустанавливающих документов или они находятся в неудовлетворительном состоянии.

Производство по делу об экономической несостоятельности (банкротстве) Городокского райпо возбуждено в ноябре 2019 года по инициативе собрания уполномоченных общества, которое приняло решение о нецелесообразности проведения досудебного оздоровления организации. Штатная численность работников райпо составляет 22 человека.

Городокское райпо стало десятой организацией потребительской кооперации Витебской области, которое ликвидируется через процедуру банкротства в связи с реорганизацией Витебского облпотребсоюза. В 2019 году на его базе создано Витебское областное потребительское общество, к которому в 2020 году планируется присоединить 10 районных потребительских обществ с последующим созданием на их базе семи филиалов — Бешенковичского, Верхнедвинского, Докшицкого, Лепельского, Поставского, Сенненского, Ушачского. Как пояснили в облпотребобществе, в результате реорганизации зоны обслуживания будут перераспределены таким образом, чтобы сохранить присутствие потребкооперации во всех районах Витебской области.

**https://www.belta.by**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# РОЛЯ СРОДКАЎ ІНДЫВІДУАЛЬНАЙ АБАРОНЫ Ў ПАДТРЫМАННІ ДЭМАКРАТЫІ

**Моцная дзяржава — гэта наша ўсё. Як тут ні прыгадаць «ліхія 90-я», калі ўлада літаральна валялася ў брудзе. Але беларусам пашанцавала: сярод лясоў і балот знайшлася ўнікальная асоба, якая здолела аб'яднаць вакол сябе пераважную частку грамадства і паказаць простыя і ясныя шляхі развіцця.**




Нашы суседзі на Поўначы і Захадзе гэтай прастаты і яснасці не ацанілі. Яны пайшлі не ад жыцця, а ад абстрактных лагічных пабудоў — і ў выніку сёння маюць тое, што маюць. Але і беларусы ў накладзе не засталіся. Тыя з землякоў, хто здолеў атрымаць шэнгенскую візу, да нядаўняга часу мелі магчымасць на свае вочы назіраць сумныя наступствы няслушнага стратэгічнага выбару сваіх суседзяў, а заадно — купляць разнастайныя тавары.

Каб шопінг канчаткова не спустошыў паліцы еўрапейскіх супер- і гіпермаркетаў, родная моцная дзяржава вымушана перыядычна рабіць больш жорсткім указ «Аб перамяшчэнні праз мытную мяжу Мытнага саюза ў Рэспубліцы Беларусь тавараў для асабістага карыстання». Чарговае ўзмацненне жорсткасці было апублікавана 14 красавіка. Рэкамендую азнаёміцца з ім, каб не наклікаць на сваю галаву непрыемнасцяў пасля заканчэння пандэміі.

Каронавірус, здавалася б, паставіў крыж на магчымасці суайчыннікаў любавацца культурнай і эканамічнай дэградацыяй неразумных еўрапейцаў. Але не варта адчайвацца. Эпідэміі прыходзяць і сыходзяць, а дэградацыя, выкліканая адмовай ад будаўніцтва моцнай дзяржавы, — працэс перманентны (ад лацінскага «permanens» — «заставацца»). На яе яшчэ нашы дзеці і ўнукі могуць атрымаць асалоду ўдосталь наглядзецца.

Высвятляць, на чыім баку праўда ў спрэчцы прыхільнікаў і праціўнікаў моцнай дзяржавы — справа няўдзячная. Усё залежыць ад культурнага кантэксту, што і было наглядна прадэманстравана на прыкладзе поспехаў/няўдач у барацьбе з распаўсюджваннем каронавіруса.

У Беларусі рэгулярна спасылаюцца на досвед Швецыі, якая адмовілася ад жорсткага каранціну. Між тым, адсутнасць патрабаванняў з боку дзяржавы не азначае, што шведы працягваюць жыць дакаронавірусным жыццём. Для таго, каб захоўваць сацыяльную дыстанцыю і выконваць іншыя патрабаванні гігіены, ім цалкам хапае рэкамендацый спецыялістаў у інтэрнэце.

Сёння ўменне знаходзіць у сусветным павуцінні карысную інфармацыю і адрознівае людзей сучасных ад архаікаў, для якіх інтэрнэт — толькі інфармацыйная памыйніца, перапоўненая фэйкамі.

**Неперакананўчая статыстыка**

Вопыт ліберальнай Швецыі, безумоўна, цікавы беларускім уладам, якія вырашылі і ў барацьбе з каронавірусам ісці сваім шляхам, але было б дзіўна, калі б дзяржаўная прапаганда не звярнулася да вопыту Кітая. Як жа без яго, як жа без міфа пра перавагі ў крызісных сітуацыях цэнтралізаванай улады над уладай дэмакратычнай?

Аднак я б не рэкамендаваў захапляцца вопытам кітайскіх таварышаў. З'яўленне першага кластара пнеўманіі з невядомай этыялогіяй лекары Уханя зафіксавалі 21 снежня, а ўжо праз 4 дні яны атрымалі пераканаўчыя доказы, што вірус передаецца ад чалавека да чалавека. Але для таго, каб прызнаць гэты медыцынскі факт, моцнай кітайскай дзяржаве спатрэбілася 45 дзён!

Усвядоміўшы небяспеку, кітайскія таварышы заблакавалі любыя перамяшчэнні з Уханя ва ўнутраныя раёны краіны, але не адмянілі замежныя авіярэйсы. У выніку дзясяткі тысяч чалавек вылецелі толькі ў ЗША ўжо пасля таго, як у горадзе быў уведзены каранцін. Ці не спрычыніўся такі выбарачны падыход кітайцаў да ператварэння Нью-Ёрка ў галоўны ачаг эпідэміі, у той час як Пекін чаша гэтая абмінула?

На сайце ўніверсітэта Джона Хопкінса колькасць інфікаваных у Кітаі практычна не расце, а Расія, якая саступае Паднябеснай у дзесяць разоў па колькасці насельніцтва, штодня дадае па 9 тысяч інфікаваных каронавірусам…

**Шчыра і прыгожа**

Для тых, хто сумняваецца ў здольнасці дэмакратый мабілізаваць насельніцтва ва ўмовах крызісаў, я прывяду цытату з мемуараў асабістага архітэктара Гітлера, рэйхсміністра ўзбраенняў і боепрыпасаў Альберта Шпеера: «Татальная мабілізацыя рабочай сілы ў дэмакратычнай Англіі і досыць нядбайнае стаўленне да вырашэння гэтай праблемы ў Германіі сведчылі пра тое, што, як ні дзіўна, менавіта аўтарытарны рэжым імкнуўся прыцягнуць на свой бок сімпатыі народа. Боязь выклікаць незадаволенасць народных масаў прымушала марнаваць на вытворчасць тавараў народнага спажывання, выплаты дапамогаў удзельнікам вайны і кампенсацыі жанчынам, якія страцілі ў заробку праз сыход мужоў на фронт, значна больш сродкаў, чым выдаткоўвалі ўрады дэмакратычных дзяржаў».

Гітлер, у адрозненне ад Англіі, так і не адважыўся ўвесці ў Германіі працоўную павіннасць для жанчын. Яго нясмелая спроба ў 1942 годзе сустрэла жорсткі супраціў з боку гаўлейтараў, і фюрэр быў вымушаны адступіць…

**На сустрэчных курсах**

Але які б узровень прафесіяналізму ні дэманстравалі беларускі ЦВК, заўвага былога рэйхсміністра ўзбраенняў і боепрыпасаў наконт імкнення аўтарытарных рэжымаў прыцягваць «на свой бок сімпатыі народа» актуальнасці не страціла.

У год галоўнай электаральнай кампаніі ў Беларусі традыцыйна працягвае расці сярэдні заробак. Ні нафтагазавыя разборкі з Расіяй, старт якім быў дадзены ў снежні 2018 года, ні падзенне знешняга попыту на традыцыйныя беларускія тавары з-за каронавіруса не ў стане спыніць атракцыён нечуванай сацыяльнай шчодрасці.

Згодна з апошняй інфармацыяй ад Белстата, намінальная налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў у сакавіку склала 1213,6 рубля, што на 93,8 рубля або 8% больш, чым у лютым.

ВУП зніжаецца, а заробак расце. Як доўга будзе працягвацца гэты рух на сустрэчных курсах і чым усё скончыцца? Тым, хто яшчэ памятае, чым абярнулася аналагічная шчодрасць у 2010 годзе, спадзяюся, не трэба падказваць адказы.

Ці ёсць шанец збочыць з пратаптанай за чвэрць стагоддзя дарожкі? Выключна тэарэтычны, не больш. …Пры гэтым неабходна памятаць кіраўнічую аксіёму: «Той, хто імкнецца ўсім кіраваць, вымушаны за ўсё адказваць».

Пра яе існаванне АП ведае, і нагадаў гэта свайму атачэнню 21 красавіка падчас рабочай паездкі ў Бабруйск: «Я, напэўна, залішне бяру на сябе адказнасць. Я на сябе ўвесь гэты груз усклаў. <...> Укладзі я адказнасць, не ўкладзі, вы ж усё роўна з мяне спытаеце. Такая практыка ў нас ужо ў краіне...» На жаль, «такая практыка» так ні разу і не была рэалізаваная на практыцы. Таму безадказнасць — адна з базавых характарыстык беларускай мадэлі, што стала асабліва прыкметна ва ўмовах крызісу.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ПАРАД-2020

# РИТУАЛ ВАЖНЕЕ ЗДОРОВЬЯ ЛЮДЕЙ?

**Настоящие фронтовики не жаловали пустую браваду. Так что морализаторство с высоких трибун звучит фальшиво...**

Господи, ну какая там социальная дистанция, о чем вы говорите! На параде 9 мая в Минске и солдатики шли плечом к плечу, и зрители со смартфонами толпились густо, и на главной трибуне важные люди стояли плотненько. Естественно, никаких масок: негоже наследникам подвига пасовать перед мелким вирусом.

Александр Лукашенко провел парад, зная, что многие его не одобряют, называют пиром во время чумы. Официальный лидер даже в своем выступлении на мероприятии не удержался от полемики: «В этом обезумевшем, потерявшем ориентиры мире найдутся люди, осуждающие нас за место и время проведения этого священного действа. Хочу им сказать по-человечески: не торопитесь делать выводы, а тем более осуждать нас, наследников Победы, белорусов».

Стоп, но ведь и среди противников парада в разгар пандемии — многие белорусы. Недавний опрос Satio и BEROC показал, что 74% респондентов выступают за запрет всех массовых мероприятий в стране. И что, имеющих такую точку зрения лишают права на наследие Победы? А с какой это стати люди при больших должностях возомнили себя монополистами и верховными судьями в этом вопросе?

Политика Лукашенко за долгие годы создала глубокий политический, ценностный, моральный раскол в белорусском обществе. И проведение этого парада лишь углубляет раскол, при том что по идее такие даты должны консолидировать нацию.

И хотя глава государства накануне заявлял, что никого на парад тащить не надо, в социальных сетях было полно свидетельств того, что административный ресурс все равно работал — если не в виде кнута, то в виде пряника. Показуха в «лучших» советских традициях.

**Когда «я так хочу» становится государственной политикой**

Несколько дней назад президент заявил на совещании, что парад — не самое опасное с точки зрения эпидемиологов и вирусологов мероприятие. С кем консультировался официальный лидер, неясно.

Во всяком случае, не с ВОЗ, к авторитету которой белорусское начальство апеллирует, когда ему выгодно. Потому что представитель ВОЗ в Беларуси Батыр Бердыклычев заявил 4 мая в комментарии для БелаПАН: «Мы очень обеспокоены возможными негативными последствиями проведения такого массового мероприятия в период эпидемии».

А глава Европейского регионального бюро ВОЗ Ханс Клюге отметил, что «те правительства, которые приняли храброе решение отложить или перенести парады, поставили здоровье людей на первое место».

Но у белорусского руководителя свое понятие о храбрости. «Меня очень волнует, что люди не одобрят, если мы, испугавшись, разбредемся по норам», — признался Лукашенко на совещании 3 мая.

Похоже, здесь на первый план вышло своеобразное понимание, как должен выглядеть сильный лидер. Лукашенко исповедует стиль крутого мужика, которому все нипочем.

Наверняка сказывается и то,

*(працяг на стар. 4)*

ПАРАД-2020

(пачатак на стар. №3)

что человек, правящий страной уже почти 26 лет, привык к беспрекословному подчинению. Это вырабатывает некритичность мышления. В свое время ошибки Сталина дорого стоили советским людям, заплатившим кровью. Некому было поправить вождя, все дрожали.

И в окружении Лукашенко, похоже, нет персон, способных возразить, даже если про себя они и думают, что зря шеф это затеял. А когда система авторитарная, персоналистская, то любое «я так хочу» становится государственной политикой…

**Не каждый день удается заткнуть за пояс Путина**

Еще в конце марта Лукашенко сетовал на проблему: как 9 мая и в Москве на торжествах побывать, и в Минске парад принять. Проблема решилась сама собой: Владимир Путин свое мероприятие (а уж как оно ему было дорого!) отменил из-за пандемии.

Сегодня Лукашенко подчеркнул, что «в этом году военный парад в Минске станет единственным на постсоветском пространстве». И это, надо полагать, тоже важный момент, склонивший чашу весов (а Лукашенко ранее признался, что «долго над этим думал») в пользу парада.

Вот ведь какой парадокс: пандемия неожиданно позволила белорусскому лидеру перетянуть центр торжеств в честь 75-летия Победы в свою столицу. Москва, в которой, как сетовал ранее Лукашенко, кое-кому неймется приватизировать Великую Победу, оказалась в тени, а вот он — на коне как самый верный и бесстрашный наследник боевой славы.

На первом плане здесь — игра амбиций, «утереть нос Путину — главный мотив». Такое мнение высказал ранее в комментарии для Naviny.by эксперт аналитического центра «Стратегия» (Минск) Валерий Карбалевич…

**Власть застряла в прошлом**

Проведением парада Лукашенко лишний раз показал себя глубоким консерватором, который привязан к советскому мировоззрению, советским ритуалам. Причем ритуал ставится выше здоровья. В советской традиции люди — это расходный материал, который идет на обслуживание якобы великих целей, а на самом деле — властных амбиций вождей. Так что морализаторство с высоких трибун звучит фальшиво.

Консерватизм нынешнего руководителя Беларуси, его желание остановить время, любой ценой сохранить статус-кво сегодня объективно мешают стране, обрекая ее на отставание от развитого мира.

Эпидемия особенно четко показала, что политический режим Беларуси, сконструированный в духе вождизма и повторения советских практик, не отвечает требованиям времени. Стране нужна другая, более современная и гуманистически мыслящая власть.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**naviny.by**

COVID-19

# «ЗА ДВА ДНЯ ПРИБАВИЛОСЬ ОКОЛО СОРОКА МОГИЛ»

**Врачи из руководства все еще заявляют, что справляются, а власти проблему не признают, пишет «Белсат».**

**Забрали почти весь подъезд**

Своими наблюдениями о том, как живут Столбцы, поделился местный житель Сергей, который доставляет горожанам продукты и потому часто разговаривает с ними, в том числе и о коронавирусе.

«Все паникуют, особенно пенсионеры. Когда делаем доставку на дом, сами защищаемся, костюмы надеваем, но пенсионеры, их родственники и близкие боятся. По их словам, очень много соседей забирают. В одном доме на улице Центральная почти весь подъезд забрали. Все это прячут», — говорит Сергей.

По его словам, растет и количество захоронений на кладбище.

«Ездил я за два дня перед Радуницей и на Радуницу. Добавилось по крайней мере около сорока могил», — отметил собеседник.

Сергей отметил, что, например, умерла женщина, которой не было и 65 лет и которая жила по соседству от его работы. Официально ей поставили диагноз сердечная недостаточность, «хотя был положительный тест на этот вирус».

Власть не спешит информировать людей и вводить противоэпидемиологические меры. Предприниматели сами вешают объявления на своих магазинах, что вход без маски запрещен.

«Я сделал небольшие брошюрки пенсионерам. Когда еду к старшим домой, доставляю вместе с антисептиком бесплатно, чтобы знали чего опасаться и что это такое. Ведь есть люди, которые не осознают происходящего», — говорит Сергей.

Собеседник также отметил, что людей на улицах города стало «раз 5 меньше», чем было до пандемии. Многие сидят в самоизоляции или карантине.

Из централизованных мер, которые все видят, в городе только дезинфицируют улицы. Но и с этим есть проблемы, говорит сотрудница одного из местных магазинов Анастасия. На подстанции электросетей на улице Гайдука рядом с ее домом работал человек, который умер из-за Ковид-19.

«Ни разу не было машины, которая бы приехала и обработала там антисептиком. Почему? Она ездила от райисполкома, повернула на милицию и поехала дальше. Ни разу мы не видели, чтобы к нам заезжала машина. Центральную улицу обработали, милицию обработали, а частные дома?» — возмущается собеседник.

Ситуацию в Столбцах она оценивает как очень тяжелую. При этом 25 апреля в государственных учреждениях прошел субботник. Частные организации от его проведения отказались.

Личная ответственность прежде всего

В Столбцовской санэпидемстанции корреспонденту Belsat.eu точной статистики относительно ситуации с коронавирусом в городе не сообщили. Посоветовали обращаться в Минздрав. Но само положение критическим не считают.

«Работаем, справляемся пока», — отметил главврач.

Что касается каких-то особых рекомендаций для жителей, то информация «и так уже перенасыщена».

«Другое дело, если бы все все выполняли. Личная ответственность граждан должна быть прежде всего», — подчеркнул врач.

Относительно дезинфекции улиц он отметил, что в городе обрабатывают прежде всего центральные улицы и те, по которым чаще всего ходят люди. За точными сведениями собеседник посоветовал обратиться в АКС Столбцовского района, но до соответствующего отдела нам дозвониться не удалось.

**МГ/МВ Belsat.eu**

КАМПАНІЯ 2020

# ЧАСТКА ЭЛІТЫ СТАМІЛАСЯ АД ЛУКАШЭНКІ

**Маральны знос сыстэмы набыў такі памер, што чыноўнікі перасталі баяцца. Чаму на выбары пайшлі Бабарыка і Цапкала? Вылучэньне адразу Цапкалы і Бабарыкі сьведчыць пра тое, што частка кіроўнай эліты стамілася ад Лукашэнкі.**

**Частка кіроўнай эліты стамілася ад Лукашэнкі**

Праект «Праймэрыз» канчаткова змаргіналізаваў большую частку апазыцыі, якая страціла ролю суб'екта выбарчай кампаніі. Пасьля краху гэтага праекту здавалася, што нас чакаюць самыя нецікавыя прэзыдэнцкія выбары, кшталту кампаніі 2015 году.

Але зьяўленьне сярод прэтэндэнтаў такіх намэнклятурных цяжкавагавікоў, як Валерый Цапкала і Віктар Бабарыка, сьведчыць пра тое, што, магчыма, нас чакае самая цікавая выбарчая кампанія, прынамсі за апошнія дзесяць гадоў.

Упершыню з 2006 году, з часоў Аляксандра Казуліна, прадстаўнікі кіроўнай намэнклятуры адважыліся ўзяць удзел у выбарчай кампаніі. Цяпер адразу двое, дуплетам. Гэта вельмі знамянальная прыкмета. Адна справа — падзеньне даверу насельніцтва да ўлады, якое прыняло даволі вялікія маштабы. Але, здавалася дасюль, народу супрацьстаіць кансалідаваная намэнклятура, аб'яднаная вакол уладара. І вось вылучэньне адразу Цапкалы і Бабарыкі сьведчыць пра тое, што ня толькі грамадзтва, але і частка кіроўнай эліты стамілася ад Лукашэнкі. Маральны знос сыстэмы набыў такі памер, што чыноўнікі перасталі баяцца.

На што яны разьлічваюць, калі ўсім вядома, што выбараў у Беларусі няма? Часткова на гэтае пытаньне адказаў Віктар Бабарыка, канстатаваўшы «абмежаванасьць любой неэфэктыўнай сыстэмы» і «магчымасьці, якія даюць новыя інструмэнты на базе сучасных тэхналёгій».

**Кіроўны досьвед і «гісторыя посьпеху»**

У чым перавага гэтых кандыдатаў? Яны падыходзяць на ролю альтэрнатывы Лукашэнку. Лідэраў апазыцыі грамадзтва ў такой ролі ня бачыць. Што, у прыватнасьці, засьведчыла галасаваньне ў інтэрнэце ў праекце «Праймэрыз».

У Цапкалы і Бабарыкі ёсьць кіроўны досьвед, чаго вельмі бракуе лідэрам апазыцыі. Яны могуць прэтэндаваць на статус «трэцяй сілы». Акрамя таго, у Валерыя Цапкалы ёсьць «гісторыя посьпеху». Маю на ўвазе Парк высокіх тэхналёгій, які ён стварыў з нуля і які стаў лідэрам самай дынамічнай і, можа, адзінай эфэктыўнай галіны беларускай эканомікі. Чым, зноў жа, ня могуць пахваліцца апазыцыйныя кандыдаты.

Зьяўленьне Бабарыкі на выбарчым гарызонце разбурае шматлікія канспіралягічныя вэрсіі, якія спадарожнічалі інфармацыі пра ўдзел у кампаніі Валерыя Цапкалы. Маўляў, гэта хітрая гульня Лукашэнкі, які сам адмыслова выставіў былога дырэктара ПВТ у якасьці кіраванага спарынг-партнэра, спойлера.

Цяпер выходзіць, што на гарызонце зьявіліся два спойлеры ў вобразе намэнклятурных цяжкавагавікоў? Ці не зашмат?

Трэба адзначыць, што Лукашэнка ня любіць складаных палітычных гульняў, ён аддае перавагу простым і нават грубым хадам, больш гуляе шахматнай дошкаю, чым фігурамі. А штучна ствараць сабе апанэнтаў — гэта складаная гульня.

**Сумнеўная вэрсія пра спойлераў**

І галоўнае пытаньне: а навошта Лукашэнку гэта трэба? Прыхільнікі падобных канспіралягічных вэрсій кажуць, што такім чынам Лукашэнка імкнецца абудзіць цікавасьць да выбараў, прыцягнуць людзей на выбарчыя ўчасткі.

Аднак праблема ў тым, што Лукашэнка, якраз наадварот, імкнецца ўключыць дэмабілізацыйныя мэханізмы, каб правесьці выбары па-за палітычнай плашчынёй, у форме тэхнічнай, рутыннай працэдуры. Памятаеце, як калісьці Ярмошына тлумачыла, чаму разьвялі прэзыдэнцкія і парлямэнцкія выбары па розных гадах? Каб не было залішняй палітызацыі. А ўдзел такіх фігур, як Цапкала і Бабарыка, якраз палітызуе кампанію. Калі б Лукашэнку цікавіла яўка, была важная цікавасьць да кампаніі з боку насельніцтва, то ён прызначаў бы выбары на 30 жніўня, калі студэнты зьявяцца ў інтэрнатах, людзі вернуцца з адпачынкаў. А ён прызначыў выбары на 9 жніўня, то бок у «мёртвы сэзон», час адпачынкаў, калі вялікай колькасьці людзей ня будзе ня толькі ў сваіх кватэрах, але і ў краіне ўвогуле.

Так, Лукашэнку патрэбен спарынг-партнэр, каб раптам не апынуцца ў выбарчым бюлетэні аднаму. Але, па-першае, хіба аднаго Гайдукевіча мала? І па-другое, спойлер павінен быць узроўню казака Ўлаховіча ўзору 2015 году. А Цапкала, Бабарыка — гэта зусім іншы ўзровень. Такіх у спойлеры не бяруць.

**Пра кручкі і ніткі**

У Фэйсбуку папулярная гіпотэза, што ў Лукашэнкі на таго ж Цапкалу ёсьць моцныя кручкі, якімі можна прымусіць яго выканаць гэтую ролю. Але, як трапна напісаў мой калега Юры Дракахруст у сваім блогу, «марыянэткі часам абрываюць ніткі».

Сапраўды, марыянэткі зрываюцца з кручкоў, калі бачаць на гарызонце вялікі прыз. І гісторыя дае нам шмат падобных прыкладаў. Лідэр антыкамуністычнай рэвалюцыі ў Вугоршчыне 1956 году Імрэ Надзь быў агентам НКВД. Вайсковы дыктатар Панамы Мануэль Нар'ега быў агентам ЦРУ, аднак амэрыканцам давялося ладзіць вайсковую апэрацыю, каб захапіць яго, бо ён гандляваў наркотыкамі. І лідэр польскай «Салідарнасьці», прэзыдэнт Польшчы Лех Валэнса таксама ў свой час падпісваў нейкую паперу аб супрацоўніцтве з камуністычнымі спэцслужбамі.

І, нарэшце, сапраўдныя спойлеры не крытыкуюць жорстка Лукашэнку, як гэта робяць Цапкала і Бабарыка. Вось Гайдукевіч — сапраўдны спарынг-партнэр — толькі хваліць дзейнага кіраўніка і ўвесь час лае апазыцыю.

Але і ў Цапкалы, і ў Бабарыкі ёсьць праблема. Хто будзе ім зьбіраць подпісы? Патрэбная каманда ня менш як 3 тысячы чалавек. Вось Бабарыка толькі цяпер абвясьціў набор сваёй ініцыятыўнай групы. Гэта значыць, што гатовай каманды ў яго няма. Прычым важна, каб людзі былі добра матываваныя. Аднымі грашыма гэтага дасягнуць цяжка.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: leo592202@gmail.com
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 16.05.2020 у 17.50**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.